ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1506) ГОД XXX БЕЛАСТОК 24 САКАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.



## СВЯТЫНЯ РОДНАГА ПАРОГА

Адзін з вядомых польскіх пісьменнікаў сказаў: няма сапраўднай літаратурнай дзейнасці без таго закляцця, якое плыве з месца нараджэння. Найбольшыя пісьменніцкія ўвасабленні вынікаюць з закляцця і зняволення ў кругу ўздзейнічання зямлі дзяцінства. Гэтае зняволенне з'яўляецца для творцы выратавальным, таму што дазваляе паўтараць увасабленні, якія з'яўляюцца паўтарэннем або ператтварэннем увасаблення іх першага свету, іх першай, матчынай мовы.

Успомнім хоць бы вялікага Льва Талстога, усё жыццё амаль правёўшага ў сваёй Яснай Паляне, ці з сучаснікаў — адышоўшага нядаўна Міхаіла Шолахава, каб пераканацца ў выключнай праўдзівасці гэтага тэзіса. У поўнай меры словы гэтыя трэба суаднесці да творчасці Віктара Шведа — бацькі патрыятызму беларускага на Беласточчыне.

Магчыма, што ў гэты момант нехта з беластоцкіх літаратараў-„белавежцаў“ адчуе сябе пакрыўджаным, але, калі так, хай скажа мне, хто з іх сказаў так пафасна-бескампрамісна, як Віктар Швед:

„Я беларус і гэтым ганаруся.
Усім душу сваю магу адкрыць:
Ніколі і нідзе не адракуся,
Што беларусам жыў і буду жыць!“
*(„Я беларус“)*

Дасканала памятаю тую хвіліну, калі словы гэтыя мне — вясковаму хлапчуку з абкрадзенай нацыянальнай свядомасцю, апалілі душу, запалілі зарадам ідэйнасці, сталі незгаральнай іскрай... А потым на сустрэчы я ўбачыў Віктара Шведа жывога і быў ён першым сапраўдным паэтам, якога я ўбачыў.

Прыведзеныя вышэй словы польскага пісьменніка маюць у адносінах да творчасці Віктара Шведа кантэкст намнога шырэйшы. Віктар Швед ужо многія гады не жыве ў сваім родным Моры, у якім прыйшоў ён на свет белы 23 сакавіка 1925 г. Было яно ўсяго толькі прыстанню яго дзяцінства. Але зачараваны свет гэтага дзяцінства з незгаральнай любоўю да бацькоўскага парога пранёс ён у сваім сэрцы праз усе свае „сцежкі жыцця“ (як жа паэтычна, далікатна і скромна сказана!), як святасць (!), якая Канвіцкага ў белы дзень хапала за рэшткі валасоў у сталічнай Варшаве, Парыжы, Лос-Анжэлесе ці Мангэтэне, напаўняючы яго вочы прасторамі неабсяжнай сінявокай Беларусі, беллю яе восеньскіх іржышчаў рыжых і камякамі снегу...

Верш „Я беларус“ адкрыў шлях Віктара Шведа ў цудоўны свет паэтычнай прыгажосці, адразу вызначыў яго ідэйна-мастацкі і эстэтычны напрамак, выявіў спеласць паэтычнай думкі. Але чароўныя гукі паэтычнай інспірацыі, пакуль выліліся ў веш-

(Працяг на стар. 2)

### ВІКТАРУ ШВЕДУ

*Сардэчна віншуем Цябе, вядомага паэта і грамадскага дзеяча, з шасцідзесяцігоддзем.*

*Амаль трыццаць гадоў таму назад убачылі свет Твае першыя вершы, якія адразу прыцягнулі ўвагу чытачоў. З тых пор Табою створана нямала хвалюючых вершаў, якімі славіш наш родны кут, вучыш любіць роднае, пратэстуеш супроць заганных з'яў у нашым жыцці.*

*Твае творы карыстаюцца шырокай папулярнасцю, многія з іх сталі хрэстаматыйнымі.*

*У дзень Твайго слаўнага юбілею жадаем Табе, дарагі Віктар, лёгкага пяра, добрага здароўя, аптымістычнага настрою і маладога парыву.*

*Праўленне Літаратурнага аб'яднання „Белавежа“*

Новыя вершы

### НА ЎЛАСНЫ ЮБІЛЕЙ

Нам часам робяць юбілеі
І лічаць нашыя гады,
А юбіляр жыве надзеяй,
Што ўсё яшчэ ён малады.

Што ў творчым ён яшчэ гарэнні,
Што ў сэрцы юны непакой,
Як дрэва, запусціў карэнні
І лісце апрануў вясной.

Што не вядзе яшчэ падлікаў
Здзяйсненняў пройдзеных гадоў,
Служыць народу ён паклікан,
Пакуль бурліць у венах кроў.

Хоць лічаць нам у юбілеі
Гады, што мчаць у небыццё,
Мы не старэем, мы сталеем,
Сталее нашае жыццё.

### КРУГАГЛЯД

Аставіў свае ў Моры
Юнацкія гады.
Было ж тут многа гора,
Быў недахоп вады.

А дарагая вёска,
І дзве шарэнгі хат,
І родныя палоскі —
Мой юны кругагляд.

І мае мары ў Моры
Ляцелі як віхор,
Да вадзяной прасторы,
Да маляўнічых гор.

Збыліся мае мары.
Я ўжо штогод амаль
Вяртаюся з загарам
З гор і ад мора хваль.

Ды на прыроды ўлонні
Пад пырскамі каскад,
Усё мацней палоніць
Юнацкі кругагляд.

### МАЁ ЎВАСКРАСЕННЕ

Хопіць адно ў бядзе благое слоўца —
Пайшла ў нябыт жыцця майго сяброўка.
Ды нехта са знаёмых парабльтаў,
Што быццам гэта стаўся я нябытам.
Пасля майго раптоўнага скanання
Нябожчыку былі нат спачуванні,
А злосныя, жадаючы благога,
Сказалі: „Вось туды яму дарога!“
Магчыма, што нічога б я не ведаў,
Што пахавалі ўжо заўчасна Шведа,
Калі б не выпадковая сустрэча
З сябром, якога я люблю дарэчы.
Мой сябра пабляднеў зусім ад жаху,
Перахрысціўся на вачах са страху
І нейк прамовіў голасам дрыжачым:
„Дык ты жывеш? А па табе я плачу.
Мо гэта цуд, ты Божа мой нябесны,
Што Віктар на вачах маіх ўваскрэснуў?“
А потым не адны мне так казалі:
„Жыць будзеш доўга, калі пахавалі“.

**Віктар Швед**

НА МЯЖЫ

# АБ НЯВЫКАРЫСТАНЫХ ШАНЦАХ (II)

Вядома, што наш век адзначаецца многаслоўнасцю і многамоўнасцю. І кожны чалавек стараецца пазнаць як найбольшую колькасць моваў, бо гэта адкрывае дзверы ў шырокі свет. Несумненна, гэта тэндэнцыя апаноўвае таксама і беларусаў. Незразумела толькі адно. Чаму гэта, імкнучыся да пазнання і апанавання розных моваў, беларус першага інтэлігенцкага пакалення лічыць, што сярод гэтых моваў не павінна быць той, якой карыстаўся прадзед, дзед, бацька і маці? Непрыхільны беларусам чалавек можа сказаць, што вынікае гэта з характэрнай для беларусаў схільнасці да духоўнай самаздрады і духоўнага самазнішчэння. Наўрад ці можна згадзіцца з такім поглядам. Не толькі кожны народ, але кожная этнічная група, кожная рэлігійная секта, кожнае племя характарызуецца інстынктам самааховы, імкненнем да захавання сваёй моўнай, ідэйнай, рэлігійнай спецыфікі і таясамасці. Дык чаму тут маем дачыненне з зусім адваротнай з'явай? Чаму гэта беларус, парафразуючы словы вядомага беларускага паэта Алеся Гаруна, не выракся мовы пад прымусам, а выракаецца яе, стаўшыся вызваленым і вольным чалавекам.

Калісь Бісмарк — заўзяты вораг польскага народа, імкнучыся да таго, каб панізіць і скампрамітаваць палякаў, сказаў, што хто хоча знішчыць Польшчу, той павінен ёй даць незалежнасць. Зразумела, што з такім сцвярджэннем не згодзіцца ніводзін паляк і гэта поўнасцю зразумела, бо некаторых сцвярджэнняў, незалежна ад іх характару, нельга прыняць, калі паходзяць яны ад ворага.

Невядома, аднак, ці не меў бы рацыі той, хто сказаў бы, што калі нехта хоча забіць у беларусах беларускасць, павінен зраўняць іх у правах з іншымі народамі. На жаль, сучасная гісторыя беларусаў у многіх, многіх краінах пацвярджае гэта страшэннае сцвярджэнне. Мне, аднак, здаецца, што з такім сцвярджэннем можна дыскутаваць і з ім не згаджацца. Кожны чалавек носіць у сабе самаабаронны інстынкт і, калі гэты інстынкт трацяць так лёгка беларусы, дык з'яўляецца гэта вынікам не толькі іх суб'ектыўных уласцівасцей, але і аб'ектыўных варункаў.

Думаю, што можам гаварыць у нас аб дзяржаўнай роўнасці і вулічнай няроўнасці. У чым яна праяўляецца? У тым, што народная дзяржава ва ўсіх аспектах зраўняла беларусаў з іншымі грамадзянамі краіны, але не ўсе грамадзяне краіны трактуюць як раўнапраўную ўсякую нацыянальную адменнасць. На жаль, амаль усе беларусы, пражываючыя ў такіх ці іншых гарадах краіны, сутыкаюцца час ад часу з праявамі розных прыкрасцей, якія родзяцца на глебе нацыянальнай адменнасці і часта гэта неталерантнасць праяўляецца ў адносінах да дзяцей з „нетыповымі" імёнамі, з „нетыповым веравызнаннем", з „нетыповай" нацыянальнасцю. Такія тэндэнцыі з асаблівай сілай выступалі ў першыя пасляваенныя гады ў часы дзейнасці рэакцыйнага падполля і моцна аджылі і нават актывізаваліся ў гадах 1980-1981. Зразумела, што ніхто тут не можа абвінавачваць народную дзяржаву, тым болей, што прыгаданыя мною тут людзі з аднолькавай нянавісцю трактавалі беларускую адменнасць і сацыялістычны характар Польшчы.

(Працяг на стар. 4)

# СВЯТЫНЯ РОДНАГА ПАРОГА

(Працяг са стар. 1)

чыя строфы, чэрпалі шчодра поўнымі жменямі з тых паэтычных крыніц, імя якім: родная зямля і свет дзяцінства. Прыгадайма ж яго!

Быў гэта свет зусім іншы, чым А. Баркага ці Я. Чыквіна, хоць бы і таму, што кожны паэт, так як і кожны чалавек наогул, заблытаны ў часе і прасторы. Неразуменне гэтага асноўнага зыходнага пункту пры ацэнцы ідэйна-мастацкіх вартасцей часта вядзе да несправядлівых, а нават фальшывых высноў.

Быў свет дзяцінства Віктара Шведа тым больш казачны і дзівосны, што пасля грознай хваробы вачэй адкрыўся яму ён толькі як чатырохгадоваму хлапчуку. З гэтага часу — як прызнае сам паэт — і пачынаецца ягонае дзяцінства.

Паэтычная муза наведала Віктара Шведа вельмі рана, бо ўжо ў дванаццацігадовым узросце, не без уплыву чароўнай паэзіі Крылова. Якраз байкі рускага пісьменніка былі першай паэтычнай кніжкай, на якую натрапіў паэт на гары суседавай хаты, дзе ляжала зваленая куча кніжак з царскай прыхадской школы. І так пасыпаліся Шведавы сатырычныя куплеты на мясцовым падляшскім дыялекце на сяброў, якіх ён не надта любіў. Пасучы з імі кароў, Віктар Швед убіраў у сваю душу казачную прыгажосць родных краявідаў, непаўторныя адценні айчыннай прыроды, мелодыі траў, залівістыя трэлі салаўёў. Магчыма, што і яны інспіравалі паэта тады дабіраць да сваіх куплетаў мелодыі. Ва ўсякім выпадку на мяжы сутыкнення казачнага рэалізму Крылова і рамантычнага светаадчування Віктара Шведа трэба і шукаць іскры першага паэтычнага натхнення, якой пазней дадзена было распаліцца. Нельга таксама не заўважыць і таго, што разгаралася яна на пагранічы чатырох братніх культур: украінскай, рускай, польскай і беларускай, а такое свабоднае ўзаемадзеянне заўсёды з'яўлялася жыватворнай трансплантацыяй!

Вельмі рана, бо ў пятнаццацігадовым узросце жыццё Віктара Шведа было акружана паэтычным арэолам, а ў арлянскай школе так і называлі яго — паэтам. Надзея перадолела тады першыя слёзы несправядлівасці, калі настаўніца польскай мовы не паверыла ў самастойныя творчыя пачынанні свайго вучня.

Аднак пераломным момантам у творчай вучнёўскай біяграфіі паэта быў перыяд савецкай улады на Беласточчыне (1939-1941 г.г.). Віктар Швед не толькі ўпершыню апынуўся тады ў стыхіі літаратурнай беларускай мовы, але перыяд гэты ў значнай меры спрыяў яго паэтычнаму росту, доказам чаго з'яўляецца ўвесь сшытак вершаў, накіраваны на раённы конкурс дзіцячай творчасці ў Бельску ў 1940 г., які загінуў падчас ваеннай завірухі. Хто ведае, якімі „сцежкамі" пайшло б жыццё паэта, калі б іменна ў гэты час Віктар Швед увайшоў на паэтычны Парнас. Да сучаснага чытача дайшоў усяго толькі адзін з вершаў з савецкага перыяду: „Не думай ніколі, што ўмееш даволі" („Дзяцінства прыстань", Беласток 1975, стар. 61), які адлюстроўвае зусім нядрэнныя магчымасці пятнаццацігадовага аўтара.

І наўрад ці існаванне Віктара Шведа як паэта было б магчымым, калі б у 1956 г. не ўзнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства і не выйшаў першы орган беларускага друкаванага слова ў Народнай Польшчы — штотыднёвік „Ніва". Здзіўляючыя гэта ўзаемазалежнасці, але яны — яшчэ адзін доказ таго, як сапраўдны мастак глыбока ўрастае карэннямі ў родную зямлю, без якой даслоўна немагчымая яго наяўнасць.

Увайсці ў паэтычны свет Віктара Шведа гэта так, як быццам увайсці ў свой „родны, мілы кут" — крыніцу свайго дзяцінства, якая з'яўляецца альфай і амегай нашага быцця, яго пачаткам і канцом. Прытым уваход гэты не звычайны, а асвяжальны, аздараўляючы! Гэта так, як быццам сасмаглы, стомлены нялёгкімі „сцежкамі жыцця" вандроўнік адкрывае раптам перад сабою жыватворную крыніцу, падыходзіць да яе, падае на калені і п'е ды ўсё не можа напіцца, любуючыся крышталічным смакам яе вады... Паэзія Віктара Шведа якраз і з'яўляецца такой крыніцай.

І з якой жа сілай на фоне ўваходу ў гэтую крыніцу быцця гучаць простыя, быццам спрацаваныя рукі, радкі верша, прысвечаныя якраз ёй — беларусцы-маці:

„Кіруеш, маці, слабы зрок  
Туды, дзе мае праз хвіліну  
Цягнік праходзіць, мо здалёк  
Вязе ён дарагога сына.

Ты сэрцам вычула — прывёз,  
З усмешкай сын дадому крочыць,  
Стрымаць не можаш сваіх слёз,  
Твае ад шчасця плачуць вочы."

*(„Маці")*

Ёсць жа ў паэта і асобны верш, у якім ён на п'едэстал паэтычнай святасці выносіць „патрэсканыя, як барозны" рукі „без жаднай заганы", „дастойныя заўжды пашаны" — „Рукі маці"

І ўсё ж, якімі ж невыносна балючымі, перапоўненыя нотамі трагізму, бываюць гэтыя ўваходы-вяртанні:

„Скажу я сёння: „Еду да бацькоў", —  
І цэлы свет становіцца нямілы.  
Стаю маўклівa я ля двух крыжоў,  
Што там вартуюць свежыя магілы".

*(„Скажу, бывала: „Еду да бацькоў...")*

Вядома, што цытаваныя фрагменты вершаў не даюць поўнага мастацкага ўяўлення і не ствараюць поўнага паэтычнага вобразу і найлепш, калі чытач сам пранікае ў іх уласную сутнасць. Тым не менш варта працытаваць адзін з найлепшых мастацкіх вобразаў паэта, у якім даходзіць да голасу жывы голас беларускай маці, з яе нескладаным светапоглядам, аднак народнай мудрасцю і вернасцю сваім ідэалам.

„Не абувайце мне на ногі  
Ніякіх чаравік, галёш.  
Схадзіла боса ўсе дарогі,  
Пайду ў апошню басанож.

А пахавайце ля Мікіты,  
Хачу быць разам з мужыком.  
Разам усё жыццё пражыта,  
Разам нам спаць апошнім сном".

*(„Запавет")*

Здаецца мне, што дагэтуль ніхто з літаратурных крытыкаў не звярнуў увагі на гэтыя сапраўды жамчужыны Шведавай паэзіі, у якой наступае не толькі поўная ідэнтыфікацыя паэта з народам, але ў якой голасам паэта гаворыць сам народ, яго найлепшы прадстаўнік у вобразе беларускі-маці — сімвале спрадвечнай дабраты і ласкі.

Пытанні першабытнасці свайго існавання, а таксама існавання ў маштабе мікра- і макракосму хвалююць паэта бесперапынна і з'яўляюцца аднымі з вядучых матываў яго лірыкі. Адвечная анталагічная праблема быцця, як жа неабыякавая сялянам (!), праходзіць чырвонай ніткай праз шматлікія вершы паэта з іх неадлучнымі вобразамі роднай маці і бацькі, або бацькоў як сукупнасці. Даволі прыгадаць такія вершы паэта, як „Надзея", „Чаканне", „Так мала слаў лістоў дахаты", „Любіла мама апельсіны", а нават „Яднанне з прыродай" ці „На гарызонце лесу готык", каб вобразы гэтых матываў сталі перад чытачом ва ўсёй наяўнасці, рубам.

(Працяг на стар. 4)

# ЯН ДАБРАЧЫНСКІ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Як ужо інфармавала штодзённая прэса, 25 і 26 лютага г.г. на Беласточчыне знаходзіўся Ян Дабрачынскі — вядомы польскі пісьменнік, старшыня Краёвага савета ПРОН. На другі дзень прабывання ў нас, пасля поўдня, ён наведаў Белавежу. Суправаджалі яго старшыня Ваяводскага савета ПРОН у Беластоку праф. Пётр Боранъ і сакратар ВК ПАРП Мікалай Казак.

Прывітанне гасцей мясцовымі палітычна-адміністрацыйнымі ўладамі мела месца ў пасёлку Звярынец. Адсюль госці з гаспадарамі накіраваліся ва ўрочышча Геркуўка, дзе чакаў іх турыцкі касцёр. Затым аглядалі зуброў на свабодзе, ездзілі на санях у дакладны запаведнік прыроды, наведалі музей. Вечарам у Доме паляўнічага адбылася сустрэча Я. Дабрачынскага з белавежскімі навукоўцамі і прадстаўнікамі розных мясцовых устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый.

З дасягненнямі белавежскіх навуковых цэнтраў пазнаёміў прысутных праф. Здзіслаў Пуцэк. Дапаўненнем яго выступлення была выстаўка найважнейшых навуковых публікацый. Затым слова ўзяў начальнік гміны, Яўгеній Паўлючук, які папрасіў паважанага госця даць рэцэпт на сённяшні цяжкі час. У адказе пачуў, што кожны з нас павінен пачаць абнаўленне ад сябе самога, ад правядзення дакладнай самаацэнкі, ад позірку на іншых з разуменнем і дружбай, а тады паявіцца платформа да пагаднення і супольнага дзеяння.

У далейшай частцы сустрэчы ўзнікла дыскусія над нездавальняючай сітуацыяй у ахове Белавежскай пушчы, якая крывавіць штораз то новымі высечкамі. Слова ў гэтай справе бралі Г. Бушко, В. Мерынг, мгр Я. Вуйцік, праф. А. Сакалоўскі. Было вырашана, што Навуковы савет Белавежскага нацыянальнага парку апрацуе рапарт аб становішчы Белавежскай пушчы і ўкажа спосабы і метады яе выратавання ад прагрэсіруючай дэгенерацыі. Калі гэтыя матэрыялы трапяць у органы ПРОН, Ян Дабрачынскі абяцаў аказаць падтрымку пры прадстаўленні справы ўласцівым органам.

Белавежу шэф ПРОНу пакідаў вельмі задаволены, хаця і моцна змучаны перагружанай праграмай. Шчыра падзякаваў за вельмі мілы, сардэчны прыём і выказаў жаданне прыехаць сюды ізноў як мага хутчэй.

Візіт Я. Дабрачынскага ў Белавежы ўвекавечыў на кінаплёнцы працаўнік ГОКу Артур Дамашэвіч. Будзе гэта першая тэма ў „Белавежскай кінахроніцы“.

**Пётр Байко**

Фота Артура Дамашэвіча



**У час сустрэчы з навукоўцамі. Каля Я. Дабрачынскага сядзяць: праф. З. Пуцэк (на здымку — злева) і праф. П. Боранъ.**

# ХРОНІКА

■ **15 II** у памяшканні ГП БГКТ адбылася сустрэча намесніка старшыні ГП Кастуся Майсені і інспектара ГП Ірыны Васілюк з дырэктарам прадпрыемства распаўсюджвання „Прэса, кніжка, „Рух“ Юзэфам Пяхоўскім і кіраўніком культурна-асветнага аддзела Веславам Петухам. Супольна праведзена была ацэнка супрацоўніцтва ў мінулым годзе і абмеркаваны напрамкі дзейнасці на бягучы год.

■ **17 II** гарадскі гурток БГКТ, які ўзначальвае Валянціна Ляскевіч, арганізаваў навагоднюю ёлку для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі і сімпатыкамі БГКТ. Дзед Мароз (Уладзімір Куршэль) уручыў дзецям пачкі з ласункамі, якія падрыхтавалі бацькі. Дзеці весела бавіліся, танцавалі, спявалі і выступалі з вершамі.

■ **19 II** у Беластоку арганізаваўся маладзёжны гурток БГКТ. Старшынёю гуртка выбраны Яўген Лук'янюк, сакратаром — Тамара Баран, скарбнікам — Галена Хведасюк. Рэвізійная камісія складаецца з наступных асоб: Яўген Каліноўскі — старшыня, Альжбета Луба і Славамір Андрэюк — члены.

■ **21 II** у начальніка горада Гайнаўкі інж. Станіслава Кастэры адбылася нарада ў справе будучага Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху. У ёй узялі ўдзел: галоўны ваяводскі архітэктар Лявон Будрык, член прэзідыума камітэта будовы музея Мікалай Нікалаюк, старшыня Таварыства прыяцеляў Гайнаўкі Аляксандр Прыступюк, праектант Бюро праектаў у Беластоку Іван Кабац, старшыня Таварыства аховы помнікаў беларускай культуры Кастусь Майсеня, сакратар гарадскога камітэта ПАРП у Гайнаўцы — Мечыслаў Охнё і інжынер Мікалай Пракаповіч. Супольна былі абмеркаваны справы з ацяпленнем будучага музея. (мх)

# НА „РАЕНЬСКІМ“ ВЯСЕЛЛІ

„Добры дзень усім вам!“ — так вітае гледачоў жаночы калектыў „Згодныя макі“ ў вясковым Доме культуры ў Райску. На гэты раз з нагоды сустрэчы, дзеля абмену вопытам у культурнай дзейнасці. Адбыўся такі вечар 15 лютага б.г. У Доме культуры сабралася многа гледачоў. Над сцэнай плакат: „Культурныя дасягненні калектываў з Рыбал і з Райска“.

Пасля прывітальнай песні выступіла вядучая праграму — Антаніна Дамброўская з Райска. Прывітала запрошаных гасцей — прадстаўнікоў адміністрацыйных улад і культурных устаноў з ваяводства і Бельскай гміны. Затым вядучая сустрэчу сказала:

„Вясковы дом культуры, дзе цяпер знаходзімся, райчане збудавалі грамадскім чынам. Тут распаўсюджваем сваю культуру, тут прымаем гасцей. Сустрэча — гэта свайго роду рэпетыцыя „Згодных макаў“, толькі больш урачыстая. Такія спатканні з іншымі калектывамі раёна ў нас адбываліся і ў мінулых гадах. Такім спосабам абменьваемся вопытам у самадзейнасці“.

Гаспадыня клуба „Рух“ у Райску — Яўгенія Шумская прыпомніла трагедыю вёскі ў час вайны. „Трэба аб гэтым памятаць, каб ніколі больш нашае і будучыя пакаленні не спазналі вайны. Наперакор мінуўшаму злу Райск жыве і спяваюць „Згодныя макі“.

У гэты вечар „Згодныя макі“ выступаюць напярэмену з мужчынскім калектывам з Рыбал.

Мужчыны з Рыбал апрануты ў элегантныя касцюмы пажарнікаў. Паводзяць сябе стрымана і прыстойна. Спяваюць пераважна беларускія песні. Публіка ўзнагароджвае іх бурнымі воплескамі. Цяпер гэта бадай адзіны на нашай ніве мужчынскі калектыў.

„Згодныя макі“ — гэта восем жанчын, членаў гуртка вясковых гаспадынь у Райску. На сцэне выступаюць у доўгіх каляровых спадніцах, белых вышываных блузках з каляровымі хустачкамі на плячах і вяночкамі чырвоных кветак на галаве. У гэты вечар былі яны вясёлымі і задаволенымі. У іх рэпертуары былі розныя песні, найчасцей жартоўныя з уласнымі тэкстамі на мелодыі папулярных песень, нпр. „Ежджо хлопі до повяту таборамі...“. Выступілі таксама са „скетчам“ „Дзядэк Ясь і Кася“.

Абодва калектывы выступілі таксама разам, спяваючы дзве песні. Музычным інструктарам абодвух калектываў з'яўляецца нястомны Пётр Нявінскі, які быў найбольш запрацаваным чалавекам на гэтай сустрэчы.

Жанчыны з Райска паказалі арыгінальную сцэнічна-аперэтковую пастаноўку „Раеньске вэсэлє“. „Малады“ ў чорным касцюме і капялюшы, быццам у кабарэ, і „маладая“ ў традыцыйнай белай сукенцы з вэлюмам. Іншыя „вясельнікі“ апрануты на розную моду. Сцэнічныя дыялагі вяліся ў форме жартоўных песень і вершаў. Публіка смяялася.

Мужчыны з Рыбал спявалі беларускія, рускія і польскія песні. Прыемна было паслухаць.

Затым адбылася афіцыйная частка. Выступіў начальнік гміны Міхал Чаламей. які сардэчна падзякаваў жанчынам з гуртка вясковых гаспадынь у Райску за ініцыятыўнасць. Уручыў калектыву „Згодныя макі“ дыплом за распаўсюджванне фальклору Бельшчыны. Выступалі і іншыя. Калектыву з Рыбал. як гасцям, прыпалі кветкі ад гаспадароў сустрэчы.

На заканчэнне Яўгенія Шумская запрасіла гасцей на пачастунак. Сустрэча прадаўжалася.

**В. Хрысцінін**

# САВЕЦКАЯ ПЕСНЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Нядзеля, 24 лютага 1985 года. Ізноў мы ў Гайнаўскім доме культуры. На гэты раз адбываюцца тут раённыя элімінацыі „Савецкай песні-85“. Зноў зала запоўнілася публікай.

На сцэне „Гурніка“ амаль восемдзесят спевакоў, музыкантаў — любіцеляў савецкай песні з Гайнаўкі, Чаромхі, Дашоў, Тыневіч, Нараўкі, Курашава, Вітава, Васькоў. Тут і салісты, і харавыя калектывы, і вакальна-інструментальныя групы. Па зале плывуць розныя песні: народныя, лірычныя, ваенныя, балады і сучасныя рытмічныя мелодыі, так што кожны з прысутных можа пачуць песню па свайму густу.

Пасля трох гадзін агляду журы ацаніла выступленні. Сярод калектываў прызнала два раўназначныя месцы для актэтаў: мужчынскага і мешанага з гайнаўскага беларускага хору. Мужчыны бадзёра і па-майстэрску выканалі беларускія песні: „Лайдакі“ і „Там каля млына“. Другі актэт ачараваў таксама беларускімі песнямі: „Мой край беларускі“ і „А ў полі крыніца“. II месца сярод калектываў заняў вакальна-інструментальны ансамбль „Аўэрс“ з Чаромхі. У іх выкананні былі дзве ўкраінскія народныя мелодыі. III месца раздзялілі: жаночы актэт з гайнаўскага хору і жаночая група з Чаромхі. Яны спявалі таксама беларускія песні. Трэба падкрэсліць, што тры актэты з беларускага хору Гайнаўскага дома культуры падрыхтаваў яго мастацкі кіраўнік мгр Аляксандр Лукашук.

Жаночай групай з Чаромхі апякуецца музычны інструктар Міхась Артышэвіч. Гэтыя калектывы выступяць таксама ў цэнтральным аглядзе „Беларуская песня - 85“. Сярод салістаў прызёрамі сталі вучні з Комплекса прафесіянальных школ у Гайнаўцы: першае месца — Марэк Харкевіч, а другое — Андрэй Ліпчынскі. Трэцяе месца журы прызнала салістцы з Вітава — Веры Дзік. Гэтая жанчына выступіла ў народным адзенні і спявала цікавыя рускія песні з ваенных часоў.

Былі таксама вылучаны: вакальна-інструментальная група пад назвай „997“ з раённага аддзела ўнутраных спраў у Гайнаўцы. Іншыя ўдзельнікі таксама заслугоўваюць на словы пахвалы, для прыкладу, вакальна-інструментальныя калектывы з Беларускага ліцэя і Комплекса прафесіянальных школ, а таксама дуэт дзяўчатак з Чаромхі.

Раённыя элімінацыі „Савецкай песні-85“ у Гайнаўцы сёлета былі падрыхтаваны добра. Заслуга ў гэтым працаўнікоў Гайнаўскага дома культуры. На Гайнаўшчыне людзі любяць спяваць і слухаць савецкія песні і менавіта таму конкурсы „Савецкая песня“ займаюць тут належнае месца.

**Ян Мордань**
Фота Міраслава Вілюка



**Жаночы квінтэт з Дашоў.**



**Мужчынскі актэт з Гайнаўкі.**




## І БУДЗЬ ТУТ ВЕТЛІВЫ

Вадзіцелі аўтобусаў, як і ўсе людзі, бываюць розныя, ветлівыя і няветлівыя.

Днямі, едучы шасцёркай, пачуў я, як нейкі хітрун, падыйшоўшы да шафёра, сказаў:

— Пане калега, зрабі ласку, выштурхні мяне ля мэблевых магазінаў.

Шафёр кіўком галавы прыняў просьбу. Даехалі мы да гэтых магазінаў, шафёр спыніў машыну, выйшаў з кабіны і шпурнуў хітруна каленам у азадак, што той, бы жаба, распластаўся на тратуары.

І ўсё было б „окэй“, шафёр жа выканаў просьбу пасажыра. Але ўмяшаліся абаронцы „пакрыўджанага“. Узнялі яны гоман, што шафёр пасажыра б'е.

— Чакайце, чакайце! — стараюся перакрычаць горланістых „адвакатаў“ і высветліць справу. А аўтобус рухаецца наперад, ад прыпынку да прыпынку, і шафёр, якога ўсе лаюць, быццам ніякіх спраў да нас не мае.

— Ён жа выканаў просьбу пасажыра, — пераконваю публіку, — навошта тады абзываць яго брыдкімі словамі?

— Што, ты будзеш бараніць вярзілу, які б'е нас!? — крычаць.

— Я нікога не бараню, але я чуў просьбу „пакрыўджанага“, — крычу ў адказ.

— Выкінуць нягодніка з машыны! — крычыць нехта ззаду. — На брук падлу!

І шлёпнуў я на асфальт, як той хітрун пракляты, толькі менш удала, бо ў мазутную лужыну. Яшчэ ляцеўшы, пачуў, што з шафёрам расправяцца на апошнім прыпынку.

**Васіль Петручук**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Адважны ніколі не каецца.

Ад злосці баляць косці.

Будзеш салодкі — праглынуць, будзеш горкі — праклянуць.

---

Нат тутэйшым, як калісьці,
Не завеш сябе, дружок,
Адарваным з дрэва лісцем
Мкнеш, дзе дзьмухне вецярок“.

І далей: „Ты ж плюеш на асяроддзе. На бацькоўскі родны кут“ (!), „Нават прозвішчу ўжо здрадзіў Сваіх прадзедаў, бацькоў (!).“ Як адстаяць сваю чалавечнасць? Кім трэба быць, каб не зрабіць апошняга кроку: „здрадзіць бацьку, здрадзіць матцы“ і „астацца, як калок“?! Гэта вельмі сур'ёзныя пытанні, бо ж закранаюць яны сферу чалавечай этыкі, без якой чалавек не можа быць чалавекам.

Праблема чалавечнасці не перастае хваляваць паэта і ў вершах з маскоўскага цыкла, цыкла, які аказаўся адным з найбольш плённых у Шведавай паэтычнай творчасці. Адсюль у паэта столькі вершаў, прысвечаных роднай мове, айчыне, беларускасці, чалавечнасці ў шырокім сэнсе гэтага слова („Слова ты, роднае слова“, „Айчына“, „Мы беларусы“, „Чалавечнасць“, „Некаторым інтэлігентам“ і шмат іншых).

У „Чалавечнасці“ паэт заўважае:

„Мы часта цынікі і клоўны,
Або двудушныя спрытнюгі,
І з ротам пустаслоўя поўным
Збіраем лаўры і заслугі.

Часта без твару, без сумлення
Жывем, хоць і ў дваццатым веку.
А ўжо найгоршае — падзенне
У чалавеку чалавека“.

*(Масква, 26.IX.1983 г.)*

Дыялектычнае яднанне паэта з прыродай і макракосмам, якое так ярка наглядаецца ў вельмі прыгожым вершы Віктара Шведа „На гарызонце лесу готык“, не заўсёды так гарманічна праходзіць у сферы чалавечай псіхікі, калі справа датычыць наступнага з адвечных пытанняў: кахання. Дысананс гэты заўважальны ўжо ў першым зборніку паэта „Жыццёвыя сцежкі“ ў такіх вершах, як: „Букет гваздзікі“ і „Галінка бэзу“. Яго працяг назіраецца ў прыгожых трыялетах „Дзяцінства прыстані“, прадаўжэнне ж — у вершах з маскоўскага сшытка. „Мне да шчасця нямнога трэба...“, „З незвычайнай душою жанчына...“, „Я разок толькі глянуў у вочы...“, „Ты мне руку падай, дарагая...“ — гэта шэдэўры Шведавай лірыкі кахання. Нягледзячы на гэты дысананс, характэрны і для вершаў з балгарскага цыкла (між іншым, „Тры стыхіі“, „Русія“), і што „ад сэрца да сэрца шлях далёкі“, паэт не падае духам, а верыць у доўгачаканую любоў:

„Чакаю на ласкавасць новых дзён,
На спозненае, вернае каханне.
Больш мой цягнік не пойдзе пад адхон.
Знайду мо крышку пачуцця, прызнання.

Мне адзіноты досыць шмат гадоў,
Даволі мне ўжо сумнае разлукі.
У кайданы твае, мая любоў,
Добраахвотна падстаўляю рукі“.

*(„Прыйдзі, доўгачаканая любоў“, Масква 1.III.1983 г.)*

Ёсць яшчэ адзін важны раздзел творчасці Віктара Шведа, які ў нас, на жаль, недаацэнены — гэта вершы для дзяцей. Дарэчы, Віктар Швед амаль адзіны сярод шматлікага ліку „белавежцаў“ (калі не лічыць Леапольда Танкевіча), які шмат і плённа працуе ў галіне дзіцячай праблематыкі. Шкада, што і мне, перш за ўсё не так часовае, як прасторнае абмежаванне не дазваляе ў іх паглыбіцца. Калі ўжо пры гэтым, дык варта працытаваць словы Міхася Калачынскага („Беларусь“ № 1, студзень 1968 г., „Сцежкамі жыцця“): „Большасць з іх сведчыць пра назіральнасць аўтара, разуменне ім псіхалогіі і інтарэсаў дзяцей. Яны даносяць „спецыфіку ўзросту“, выклікаюць усмешкі дасціпнасці народнымі жартамі, якія аднолькава хораша ўспрымаюцца і дзецьмі, і дарослымі“.

Тое, што паэзія Віктара Шведа заваявала сэрцы землякоў, не трэба нікому даказваць. Сведчыць пра гэта і хваляванне суродзічаў — слухачоў не толькі на Беласточчыне ці ў СССР, але і ў далёкім Лондане на аўтарскіх сустрэчах, калі многім з іх на вочы наварочваліся слёзы. Паэзія Віктара Шведа жыве перш за ўсё як песня і такой яна застанецца ў сэрцах яго землякоў.

**Юрка Трачук**
Фота аўтара

## ПРОНАЎСКІ СХОД ПРЫ ГУРТКУ БГКТ

27 лютага 1985 г. у гайнаўскім клубе БГКТ адбыўся справаздачна-выбарны сход звяна ПРОН, якое дзейнічае пры гуртку БГКТ. Справаздачу аб працы ПРОН прадставіў член гарадской рады ПРОН Сяргей Харкевіч. Прысутнічалі радны МРН Васіль Іванюк, прадстаўнік грамадскага самакіравання Аляксей Харкевіч, намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня.

Як справаздача, так і дыскусія падкрэслілі вялікі ўплыў Беларускага таварыства на ўсе галіны палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця краіны. Адзначаны вялікі ўдзел нашай арганізацыі ў святкаванні 40-годдзя Народнай Польшчы.

Па аднадумнаму рашэнню ўсіх прысутных у пратакол быў занесены пастулат, каб БГКТ мела сваіх кандыдатаў у паслы Сейма ПНР.

Дырэктар Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы мгр Аляксандр Іванюк і старшыня бацькоўскага камітэта др Панталеан Мароз выступілі з праектам, каб звяно ПРОН пры БГКТ у супрацоўніцтве з гарадской радай нарадовай праявілі належную ініцыятыву пры пабудове ліцэя ў Гайнаўцы.

На сходзе быў зачытаны план сустрэч з журналістамі „Нівы" і іншыя цікавыя мерапрыемствы, якія будзе арганізаваць гайнаўскі гуртoк БГКТ.

Новыя ўлады звяна ПРОН пры гуртку БГКТ у Гайнаўцы: Сяргей Харкевіч — старшыня, Васіль Іванюк — намеснік, Віктар Бура — сакратар.

Дэлегатамі на з'езд гарадской рады ПРОН у Гайнаўцы былі выбраны: Панталеан Мароз, Мікалай Байко, Віктар Бура, Васіль Іванюк, Сяргей Харкевіч.

**В. Б.**

## ЗІМА Ў ГАЛАДОЎСКІМ ЛЕСЕ

Зімою ў лесе чуваць галасы маторных пілаў і крыкі рабочых. У лясніцтве Галады праходзіць вырубка лесу. Зімою рэжуць больш ліставых дрэў. Іх вяршкі вельмі любяць есці сарны.

**Зіма не прынесла вялікай шкоды лесу ў Галадах. Гаёвы і лясная страж праганяюць звяроў, каб не абгрызалі маладых дрэўцаў. Дакормліваюць звяроў і птушак, калі вялікі мароз. Корм раскладаюць не толькі ў месцы, дзе звяры найчасцей збіраюцца, але і ў іншых месцах.**

Адліга не надта цешыць гаёвых з Бельска. З аднаго боку добра, што дрэва не будзе абложана снегам, але, з другога боку, адліга перашкодзіць у звозцы выразанага дрэва.

Снег перашкодзіў намерам браканьераў. У надлясніцтве не знаходзяць пастак браканьераў. На снезе вельмі выразныя сляды звяроў, але відаць і сляды, а нават форма абутку браканьераў.

За добрую ахову лесу трэба пахваліць Івана Гадлеўскага — ляснічага з Галадоў, які любіць лес і яго сімпатычных жыхароў і з сардэчнасцю адносіцца да сваёй працы.

**Андрэй Гаўрылюк**



## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Канчаючы разважанні аб прысутнасці магічных слоўных формул у радзільна-хрысціннай абраднасці, варта прывесці яшчэ некалькі момантаў, якія папаўняюць нашы ранейшыя тэзісы.

Вера ў магічную сілу слова праяўлялася і ў тым, што суседзі або выпадковыя госці, наведаўшы хату, у якой было малое дзіця, і гаворачы аб нейкіх хваробах, абавязкова павінны былі дадаць: „Няхай на нас завершыцца". Гэта формула як бы аўтаматычна мела нейтралізаваць інфармацыю аб хваробе.

Калі асоба, якая сказала аб хваробе, не дадала формулы, якая мела запэўніць яе нейтралізацыю, тады хтосьці з гаспадароў — найчасцей маці — гаварыў: „Ціпун табе на язык" або: „Хай на тваім языку спрышчыцца".

Зразумела, што з увагі на прынцып гасціннасці, такія словы не заўсёды маглі быць сказаны ўголас. У такіх выпадках шапталіся яны паціху. Ад гэтага аднак не паменшвалася сіла іх уздзеяння. Жыхарка вёскі Мядзведзі Кася Мядзведзь выказваецца аб гэтым наступным чынам:

„Ты думаеш, што слово ні мело сілы? Ешэ якую! Слово гэто усё адно, што агонь. З его магла пайсці усякая бада і найгорша хвароба магла прычэпіцца. Чалавечы очы і слава, то гэто штось такое, як зараза. Вано вадомо, што усе залежало ад чалавека. Калі чалавек урэдны, то і яго очы і слава ўрэдны, а як чалавек добры, то навет, калі вон закліне або аб хваробе успомніт, то ніякай бады не будзе. Але дзе ж там будзеш разбірацца, хто урэдны, а хто ні урэдны. Як толькі у хаці малое. то трэбо его сцерагчы як можэш. А як сцераглі? Вэльмі просто. Калі хтось пагледзіт на дзіця падазрыцельно, замоцно пахваліт або закліне чы успомніт хваробу і ні разу не плюне і не скажэ „не тут кажучы" або „ніхай на нас завершыцца", то тады маці малого або его баба канечне павінна сказаць: „соль табе у очы і дзеркач у зубы", „ціпун табе на язык", „хай табе язык спрышчыт". Вано вадомо, што ні заушэ лоўко было сказаць уголас. Бо калі б сказаць гэто ўголас, а той чалавек быў моцна ўрэдны, то ён мог бы яшчэ раз злое падумаць або пашаптаць і тады ужэ на яго ні было б ніякае рады. Та што мы, бывало, рабілі? Просто ні казалі ўголас, але шапталі і усе было добрэ. Але бывало вано і так, што якаясь моцно урэдна баба пачынае з табою сварыцца, от так просто зуб на зуб, просто на ражон лезе, бо так ёй моцна хочэцца нарабіць урэду. Та што з такою рабіць! Бывало і так, што з такою халераю ні маглі парадзіць аніяк. Даходзіло да тагс, што твой мужык сідзіт, сідзіт і усё гэто ні умешваецца, маўчыт. Урэшце не выдзержыт, схопіт такую ведзьму за чэпалахі і вывалачэ з хаты. Вано вядомо, што там, дзе слово ні памагае, то і кулак прыдаецца".

Зразумела, што такія экстрэмальныя сітуацыі здараліся, праўдападобна, рэдка, аднак сям'я, у якой паявілася нованароджанае дзіця, усімі спосабамі старалася запабегчы яго зрокаваму кантакту з асобамі, найчасцей старымі жанчынамі, якія лічыліся ў данай мясцовасці як людзі са шкодным позіркам або адмоўнымі слоўнымі ўздзеяннямі.

Даволі часта перад такімі асобамі засоўвалі дзверы або выносілі дзіця з памяшкання, у якім яны апынуліся.

Вера ў слоўную магію, несумненна, упрыгожвала і ўзбагачвала радзільна-хрысцінны рытуал.

**А. Баршчэўскі**

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

## У ТРАСЦЯНЦЫ

Бываю часта ў вёсцы Трасцянка, што ў гміне Нарва. Ну, а калі ўжо бываю ў вёсцы, дык часта заходжу ў краму, каб паглядзець, што новага прывезлі, а можа і што купіць.

Аднойчы так зайшоў я ў тую краму, стаў збоку і гутару са знаёмымі, а чарга сунецца. Людзі, пераважна сяляне-пенсіянеры, купляюць малако ды хлеб.

Ды вось убегла ў краму настаўніца з мясцовай школы, каб купіць хлеб. Папрасіла ў людзей, каб дазволілі купіць без чаргі. Каб вы чулі, які шум узняўся. Трэба стаць у чаргу, — бурчэлі людзі. Настаўніца выйшла без хлеба, яна вельмі спяшалася на ўрок.

Хачу сказаць, што настаўнікі ў школе ў Трасцянцы працуюць ад 8 да 15 гадзіны і ў тых жа гадзінах адкрыта вясковая крама. Які ж выхад, калі няма ветлівасці і зразумення?

Гэтая настаўніца вучыла нашых дзяцей, а цяпер вучыць унукаў. А гляньце — аніякай пашаны. І што цікавейшае — у асноўным жа гэта былі пенсіянеры, якія па цэлых днях стаяць у краме і наводзяць плёткі так голасна, што прадаўшчыца просіць, каб цішэй гаварылі, бо цяжка працаваць.

Сустрэў я настаўнікаў з Трасцянкі, якія куплялі хлеб у Заблудаве. Не вытрываў, падышоў і пытаю: „Чаму купляеце не ў сваёй краме, а прыязджаеце ў Заблудаў?" Пачуў адказ: „Вы ж самі бачылі, як да нас адносяцца людзі ў нашай краме. Мы там маем толькі 5 мінут перапынку, калі можам забегчы купіць хлеб. Калі ж у гэтыя 5 мінут не можам купіць, трэба ехаць шукаць далёка. Наша праца такая, што дзяцей на ўроку нават на мінуту нельга пакінуць саміх".

Над усім гэтым варта прызадумацца. Якія мы ўсё ж людзі?

Адна з цяперашніх настаўніц у Трасцянцы вучыла і маіх дзяцей. Вывучыла добра і на добрых грамадзян — яны цяпер добрасумленна працуюць. Ці ж мог бы я не прапусціць настаўніка без чаргі купіць кусок хлеба, тым больш, калі ён бягом мусіць бегчы, каб паспець на ўрок?

**М. Лук'янюк**

## ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

## ЯЕ ІМЯ — ЛЮБАЧКА

Я да сёння не магу забыць усхваляванага да слёз, пунсовага твару гэтай жанчыны з Міхалова, лёс якой так трагічна ўпісаўся ў сучасную гісторыю нашага краю. І не дзеля адной пустой цікавасці рашыў я расказаць пра гэты лёс. То ж і зараз жывем мы пад пастаяннай пагрозай няведанага знішчэння ўсяго жывога на гэтым свеце. Недзе за глыбокім і шырокім акіянам надакучыла камусьці ўласнае багацце, дык захацелася чужой зямлі, не спадабаліся парадкі ў іншых краінах, дык у імя ўяўнай „свабоды" гатовы яны знішчыць сотні мільёнаў іншых людзей, каб стаць панамі на пустыні смяротных папялішчаў, дзе тысячы і тысячы такіх жанчын, як гэта з Міхалова, будуць плакаць над невядомымі магіламі сваіх бацькоў і братоў...

Учора пошта прынесла чарговы ліст на маё прозвішча. Ліст з Масквы. Сястра шукае магілу свайго брата. **Павел Чарноўскі**, 1921 г. нараджэння, з Тульскай вобласці быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі ў верасні 1940 года. Тады ён жыў у Маскве.

*„... Адносна брата шмат чаго я не магу да сёння зразумець. Калі яго прызвалі ў армію, яму яшчэ не споўнілася і 19 гадоў, але ён верна служыў айчыне, на што ў мяне захавалася спраўка ад 8 сакавіка 1941 года. Ваенная часць № 2306, горад Саколка.*

*Мне з Музея Брэсцкай крэпасці паведамілі, што гэта ўсё адышло зараз да Польскай Народнай Рэспублікі і Саколка знаходзіцца ў Беластоцкай вобласці. А з архіва горада Падольска, Маскоўскай вобласці, адказалі, што мой брат нідзе там не адзначаны. Але як ён мае быць там адзначаны, калі немцы ў гэтым месцы, дзе ён служыў, не аставілі каменя на камені..."*

Марфа Цімафееўна пражыла ўжо 67 гадоў. Яе бацькі даўно памерлі, а брат не вярнуўся з вайны. А яна ўсё яшчэ не патраціла надзеі, што дачакаецца нейкай вестачкі пра гэтага брата, пра свайго Паўліка...

*„...Але чаму ж я, сястра яго, не павінна ведаць пра яго нічога, калі ў нас нікога не засталося, апрача мяне".*

Па стылю, па почырку, дадумоўваюся, як нервавалася і хвалявалася Марфа Цімафееўна, пішучы гэтыя словы. Боль, закаранелы боль, які вырываецца на паверхню пачуццяў разам з хваляй неўміраючых успамінаў, перашкаджаў ёй дбайна выводзіць літары...

*„...У мяне да вас не прэтэнзія, а просьба! — адзначае Марфа Цімафееўна. — Магчыма, яго магіла на вашай тэрыторыі, напэўна... Я так думаю... Калі, аднак, ён папаў у палон і быў бы жывы..."*

Што ж, хай жывыя не трацяць надзеі... Таму і я не змог адмахнуцца ад заблытанага лёсу асірацелай дзяўчынкі, якою за-




# ВЫСТУПЛЕННЕ НА З'ЕЗДЗЕ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

На двух папярэдніх з'ездах не мог я пабываць. Перашкодаю былі хвароба і холад, якога я вельмі баюся. І сёння, каб не юбілей, то таксама не прыехаў бы. Каля цёплай печкі сядзеў бы ды ногі грэў бы.

Пра які юбілей гавару?

Першы: гэта ўжо паўтары тысячы нумараў „Нівы" пайшло з Беластока ў свет!

Другі: мая першая карэспандэнцыя паявілася ў „Ніве" ў 1975 годзе, у нумары 15 ад 13 красавіка. Кажуць, што 13 — нядобрая лічба, можа, таму я мала (але кажуць, цікава) пішу. У красавіку, значыць, будзе 10 гадоў майго супрацоўніцтва з „Нівай". За гэты час у „Ніве" паявілася 110 маіх артыкулаў і 17 адказаў на маю крытыку. Мае артыкулы ў большасці друкуюцца пад псеўданімам.

Трэці: праз год (хто дачакае) будзем урачыста адзначаць 30-годдзе першага нумара „Нівы".

І так вось, дарагія сябры, хоць мне цяжка было дабрацца да вас, але занудзіўся я за вамі і хочацца разам пабываць, паслухаць цікавую дыскусію.

Вельмі люблю чытаць, а прачытаўшы цешуся, колькі ў нас разумных людзей, як цікава пішуць! Бывае і так, што адзін напіша, а другі ў адгалосках крытыкуе — і падумаеш сабе: а хто яго ведае, чыя тут праўда? Я таксама не святы і часамі штонебудзь пальну ў адгалосках. Адгалоскі патрэбныя і не трэба рэдактара вінаваціць, што такі ці іншы артыкул пусціў у свет — не прасеяў, не аддзяліў добрага зерня ад злога. Ой, міленькія, прасявае, ды добра прасявае, напішы толькі не так, як трэба. Шмат і маіх артыкулаў не пайшло ў друк. Ім у рэдакцыі лепш відаць, а нам трэба пісаць.

**Э. Шчасновіч**



Царква ў Мілейчыцах. Фота Юркі Трачука.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Innowacje w gospodarce. Białystok—Białowieża, listopad 1984. Filia UW w Białymstoku, Zakład Ekonomiki Przemysłu, Polskie Towarzystwo Ekonomiczne, Oddział Międzywojewódzki w Białymstoku, Białystok 1984, s. 404 (Materiały z konferencji).

Wiaczesław Adamczyk — Cudza ojczyzna. Tłum. z białoruskiego Maria Dolińska. Wydawnictwo Lubelskie, Lublin 1984, s. 371, Cena 150 zł.

Энцыклапедыя прыроды Беларусі. У пяці тамах. Выдавецтва „Беларуская савецкая энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Мінск 1983. **Том І (Аалiты — гасцінец), с. 576. LXVI, 3 карты, Цана 8 р. 90 к.; Том 2 (Гатня — Катынь), с. 524, LXVIII, 4 карты, Цана 8 р. 90 к.**

Мария Н. Трухан, Надежда В. Пахолкина — Кровососущие двукрылые насекомые Белоруссии. „Наука и техника". Минск 1984. с. 174, Цена 1 р. 10 к.

Галина И. Сержанина — Шляпочные грибы Белоруссии. Определитель и конспект флоры. „Наука и техника, Минск 1984, с. 408, Цена 1 р. 80 к.

**П. Байко**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я сама вяду „малюха", хаця дрэнна бачу. Я еду па цэнтральнай вуліцы горада Беластока, недзе каля кінатэатра „Покуй". Цесна неяк мне зрабілася і я хацела адсюль выехаць, але з абодвух бакоў я ўбачыла прадаўгаватыя равы. І хаця я ведала, што можна было б выехаць з іншага боку, то мне здавалася ўсё, што там будзе занадта вузкі выхад, і я падумала, што не варта наогул нікуды выязджаць. Скажы, Астроне, што гэты сон можа абазначаць!

**Тамара**

Мне, Астроне, у апошнюю ноч прыснілася цэлая серыя нябожчыкаў. Быццам бы я прыехаў на вёску, дзе яшчэ жыве мая маці. А там па панадворку ходзяць, быццам жывыя, нябожчыкі: бацька, цётка, дзядзіна. Я з імі гавару, як з жывымі, а потым раптам апынуўся ў поездзе. І так сяджу ў вагоне і выглядаю тужліва праз вакно на свае родныя аколіцы. І сумна мне, што мушу ад'язджаць са сваіх старонак. Ці добры мой сон?

**Васіль**

Астроне, мяне цэлую ноч мучыў сон пра майго сына, які вучыцца ў іншым горадзе. Быццам бы прыехаў ён дахаты, а сам зусім голы. Праўда, былі на ім нагавіцы і боты, але цела меў голае і толькі нейкая куртка была на яго накінута. Не ведаю, ці ён адчуваў, што так хадзіць нельга голаму, ці проста яму было холадна, але ён неяк увесь час нацягваў на сябе гэтую куртку і захінаўся ёю. Я якраз спадзяюся, што сын прыедзе дахаты і вельмі непакоюся, каб дзе што дрэннае яму не сталася. Падкажы мне, Астрон, можа ты што лепш параіш.

**Агата**

Тамара! У тваім жыцці будуць нейкія перашкоды. Ты захочаш вылезці з нейкай не надта пэўнай справы, але бадай у цябе з гэтага нічога не выйдзе. Тыя равы табе перашкодзяць.

Твой сон, Васіль, супярэчлівы. У нейкай добрай справе (нябожчыкі ж сніліся) будзе нейкі нямалётны сум (ты ж апынуўся ў поездзе).

Агата, твайго сына чакае нейкая страта (быў голы), але нічога больш страшнага здарыцца не павінна. Сын гэта будзе вельмі перажываць, бо ўва сне ўвесь час нацягваў куртку і захінаўся ёю.

**Астрон**

апекаваліся сяляне з хутара пад Міхаловам. Сярод 65 ахвяр гітлераўскага зверства знаходзілася напэўна яе родная маці. А ці быў бацька? І кім быў яе бацька?

З надзеяй, што ўдасца мне нешта даведацца аб гэтым, пачаў я распытваць людзей у навакольных вёсках пра лёс Цабаевай выхаванкі. І мне пашчасцілася.

**Мальвіна Шымасюк**, жыхарка вёскі Тапаляны, што між Заблудавам і Міхаловам, ад радасці аж у далоні пляснула, калі пачула, што я цікаўлюся лёсам гэтай дзяўчыны.

— Божачкі! — усклікнула яна. — А я думала, што і ў магілу прыйдзецца мне забраць з сабою гэтую тайну! То ж я добра ведала яе бацькоў! Маці яе — **Вера Міхайлаўна**, а бацька — **Фёдар Маскаленка!**

Я ад здзіўлення астаўбянеў. Глядзеў на гэтую старэйшую ўжо жанчыну і не мог слова прамовіць.

— Яна вельмі падобная на сваю маці, як дзве кроплі! — цягнула бабуля Мальвіна. — І таму я ніколі не магла называць яе інакш, як сапраўдным яе імем — **Любачка!** Яе завуць Любачка! Хай людзі ведаюць, што яна **Любоў Маскаленка, Любоў Фёдараўна**, дачка савецкага афіцэра. Вы так і напішыце абавязкова!

І яна задыхалася ад усхвалявання, пачала наракаць на сэрца.

— Я доўга маўчала і нікому нічога не гаварыла, — супакоіўшыся крыху, сказала Мальвіна Шымасюк. — Глядзела на дарастаючую Любу Фёдараўну, а перад вачыма ў мяне пастаянна паяўлялася яе маці — Вера Міхайлаўна.

І тут я пачуў такую гісторыю, у якую трудна паверыць, значыць, яна не можа быць няпраўдзівая, бо такога чагосьці ніхто не зможа прыдумаць.

— У Беластоку, — расказвала цётка Мальвіна, — каля гасцініцы „Рыдза", калі тут была савецкая ўлада, пасяліўся адзін афіцэр...

Неабходна тут паясніць, што Мальвіна Шымасюк гаворыць аб славутай гасцініцы „Рыша". Памяшчалася яна там, дзе зараз знаходзіцца сквер між рэчкай



Мальвіна Шымасюк з Тапалян раскрыла тайну лёсу Любы Маскаленка. На здымку яна з уласнай унучкай.

(Працяг на стар. 8)

## ЦІКАВІНКА

### 15 МІНУТ ІДЗЕ АПЕРАЦЫЯ ВОКА

Галоўны герой гэтага маланкавага метаду аперацыі вачэй называецца Святаслаў Фёдараў — савецкі лекар, прафесар-хірург.

Яго аперацыі праходзяць — як на фабрыцы — па канвееру. Лекары не збіваюцца ў адну групу над аперацыйным сталом, але рассядаюцца ў рад, у двухметровай адлегласці — ля кожнага мікраскоп.

Пацыент уваходзіць з аднаго боку — яго рыхтуюць і кладуць на ложак і далей ён на рэйках пад'язджае да першага лекара, які выконвае акрэсленую працу і перасоўвае аўтаматычна пацыента да другога лекара, сам адразу ж прымае наступнага.

Апошні і найважнейшы рух дыяментавым нажом з дапамогай камп'ютэра выконвае прафесар Фёдараў, даючы 8 да 16 тоненькіх як валасок, рубцоў на рагавой абалонцы вока. Пацыент устае і выходзіць другімі дзвярыма, не верачы свайму шчасцю. Гэтак за 4 гадзіны Фёдараў аперыруе 60 блізарукіх пацыентаў, папраўляючы адно вока. Праз тыдзень кожны з іх прыдзе і за 15 мінут яму паправяць другое вока.

Аперацыі праводзіць Святаслаў Фёдараў у Інстытуце даследавання мікрахірургіі вока пад Масквой пад гукі джазавай музыкі. (авл)

(Працяг са стар. 4)

## У СПРАВЕ НАШАГА МУЗЕЯ

Załączam wzory druków przygotowanych przeze mnie dla potrzeb naszego komitetu pomnikowego (высылаю іх у Рэдакцыю — дап. П.Б.). Zaznaczam, że nawet gdy na list-apel odpowie 5—10 proc. adresatów, wydatki związane z korespondencją (a idą one w tysiące zł) zwracają się wielokrotnie (...). Myśmy również obiecali przesłać wszystkim wpłacającym na pomnik okolicznościową, pamiątkową jednodniówkę (...)

Życzę powodzenia w realizacji ważnego, szlachetnego i pięknego dzieła budowy muzeum białoruskiego — musicie się jednak energiczniej starać o pieniądze (...) Komitet musi pokazać, że kogoś reprezentuje, że jego inicjatywa spotkała się ze społecznym poparciem".

Фрагменты пісьма Яцка Шурка прывёў я не толькі як прапанову тэхнічнага вырашэння дзеяння для камітэта пабудовы, але — мо перш за ўсё — для ўзмацнення маральнага дзеяння беларусаў.

**Пётр Байко,**
Белавежа

### ТАЯМНІЦЫ ВАКОЛ НАС

# ТАЯМНІЦЫ КРАПІВЫ

Крапіва — гэта, мабыць, адзіная расліна, якую без цяжкасці кожны пазнае. Адзін з маіх сяброў калісьці аўтарытэтна заявіў, што ён у сваім жыцці ніколі не пазнаў ніводнае дзікарастучай расліны. Але ж, збіраючы ў лесе маліны, папёк сабе руку і крыкнуў:

— Ну і ліха, усюды гэтая крапіва!

Крапіва (лацінская назва — Urtica dioica L., польская — pokrzywa zwyczajna, руская — крапива двухдомная) — гэта настолькі цікавая расліна, што не толькі варта яе ведаць, але і спазнаць яе таямніцы. Ужо сама лацінская назва дае пра яе асноўныя звесткі. Слова urtica паходзіць ад лацінскага urere — пячы, а dioica — двухдомная.) Інакш кажучы: гэта пякучая расліна, якая мае толькі адзін род кветак — мужчынскія або жаночыя. Для апылення неабходна, каб побач раслі сама меней дзве крапівы і адна з іх была з жаночымі кветкамі, а другая — з мужчынскімі). Уся гэтая расліна (на ўраджайных глебах яна бывае ў паўтара метра вышыні!) пакрыта дробнымі, надта ж крохкімі валаскамі, якія ўнутры напоўнены вадкасцю з перавагай мурашынай кіслаты (квасу мрувковага). Пры дотыку да расліны, валаскі ломяцца, іх вастрыі прабіваюць скуру, а пранікаючая ў рану мурашыная кіслата пячэ. Аднак варта ведаць, што пячэ крапіва толькі жывая або свежазрэзаная, высушаная не мае гэтай уласцівасці. Зрэшты, ёсць многа спосабаў на ўтаймаванне свежай крапівы, напрыклад, абліць яе кіпетнем або пасаліць.

З гаспадарчага пункту гледжання крапіва — расліна ўнікальная. Маладая, яна ўдала канкуруе з ранняй зялёнай агароднінай па колькасці вітамінаў і часе гатоўнасці да збору. Яшчэ гаспадыні не паспеюць засеяць агароды, а ўжо могуць назбіраць крапівы на боршч або салату. Боршч з крапівы — гэта праўдзівая смаката! Рэкамендую выпрабаваць такі рэцэпт:

Назбіраць 150 грамаў маладой крапівы, адварыць яе ў вадзе (варыць 3-5 мінут), адцадзіць і прапусціць праз мясарубку, дадаць тлушчу і тушыць 10-15 мін., затым укінуць у кіпячую ваду. Да супу дадаць 50 г шчаўя (змеленага або дробна пакрышанага), 5 г морквы, 5 г пятрушкі, 20 г цыбулі, 5 г мукі, паўяйка і 15 г смятаны і да смаку — соль, перац, лаўровы ліст.

Салату з крапівы рыхтуюць так: узяць 150 г маладой крапівы, адварыць яе ў вадзе (варыць да 3 мін.), адцадзіць, пакрышыць і пакласці ў салатніцу, дадаць 15 г смятаны і соль ды



воцат па смаку, зверху прыкрыць кружочкамі нарэзанага зваранага яйка.

Крапіву любяць не толькі людзі. Яна — вельмі каштоўная кармавая расліна. Асабліва рэкамендуецца дадаваць яе ў корм дойным каровам. Яна павялічвае надой і павышае колькасць тлушчу ў малацэ. Расцёртае лісце крапівы — гэта вельмі карысны дадатак да корму курам узімку. Куры лепш нясуцца. Дабаўка крапівы ў корм цялятам або маладому птаству паскарае іх рост.

Пішучы пра крапіву, нельга таксама не сказаць пра тое, што калісьці яна была тэкстыльнай сыравінай. З валакна крапівы ткалі матэрыял як на бялізну, так і на верхнюю вопратку. Крапіву выкарыстоўвалі для фарбавання. З яе карэння атрымоўвалі жоўты фарбавальнік, а з лісця — зялёны. З кветак крапівы нарыхтоўвалі піва, пакуль іх не замяніла прывезеная з Кітая гарбата.

Крапіва з даўніх часоў шырока выкарыстоўваецца ў медыцыне. Водныя выцяжкі (экстракты) з лісця праяўляюць мачагоннае, процірэўматычнае, працідыябетнае (процію цукровай хваробы), працiпаноснае і лёгка сцягваючае ўздзеянне. Вялікая колькасць вітаміны К у лісцях уплывае на тое, што крапіва — гэта таксама эфектыўны сродак на кроватачывасць. Водную наліўку з лісця крапівы можна нарыхтаваць хатнім спосабам — 15 г лісця заліваем шклянкай вады. П'юць сталовую лыжку 3-4 разы ў дзень. Пры рэўматызме балючае месца націраюць свежай крапівой.

Калісьці крапіву ўжывалі для лячэння ранаў і нарываў: змазвалі раны патоўчанай у драўлянай ступцы крапівой.

Крапіва — гэта таксама вядомы сродак догляду валасоў. Засцерагае ад выпадання і ліквідуе перхаць (лупеж). Да гэтага ўжываюць свежае лісце або карэнне. Сабранае лісце трэба прапусціць праз мясарубку, змяшаць з гарэлкай (моц 40°) у прапорцыі 1:10, паставіць на тыдзень, а потым змазваць скуру галавы 1-2 разы ў тыдзень. Для мыцця галавы ўжываюць водную выцяжку з лісця крапівы, нарыхтаваную ў такой прапорцыі: адна сталовая лыжка пакрышанага на муку сухога лісця крапівы на шклянку вады.

На лякарства лісце крапівы збіраюць ад красавіка да верасня.

**Б. Паскробка**
Мал. Б. Альшэўскага

(Працяг са стар. 7)

# ЯЕ ІМЯ — ЛЮБАЧКА

Бялкай параднымі палацовымі варотамі і Музеем Войска Польскага. Пасля палаца гетмана Браніцкага быў гэта самы знатны будынак у Беластоку. Узарвалі яго немцы, калі ў 1944 годзе пакідалі горад.

— На першым паверху гэтага будынка, дзе раней жылі Рушчэўскія, — прадаўжала свой расказ Мальвіна Шымасюк, — кватэраваліся Фёдар Масkаленка і Вера Міхайлаўна. У іх быў хлопчык **Воўка**, можа, чатырохгадовы...

Аднекуль вярнуўся дамоў муж Мальвіны — **Язэп Шымасюк.** Прыслухаўшыся да яе расказу і даведаўшыся, з чым я да іх завітаў, ён ахвотна ўключыўся ў нашу гутарку.

— А ведаеце, гэты Вова, значыць, Уладзімір або Валодзька, калі гаварыць па-нашаму, — апавядаў дзядзька Язэп, — быў такі адважны, шустры хлопчык. Бывала, я заеду ў Беласток, зайду на кватэру да гэтага Маскаленкі, а ён, значыць, Воўка, зусім не бянтэжыцца, ускочыць на калені і просіць, каб яго пагойсаць на нагах. Я гутарыў з ім па-нашаму, па-тапалянску, бо рускай мовы я добра не ведаў. А яму гэта вельмі выдавалася смешным і некаторыя словы мае паўтараў ён, звяртаючыся да мамы. Усе мы гуртам таксама шчыра смяяліся...

— Бо трэба вам ведаць, — урэшце бабулька Мальвіна перапыніла свайго мужа, — што гэты Вова таму так адважна да нас адносіўся, бо мая мама была ў яго н я н я й. Яна дапамагала Веры Міхайлаўне весці хатнюю гаспадарку. І таму я часта заходзіла туды, — прадажала яго жонка. — Мы падружыліся, як сёстры, хаця на некалькі гадоў я была старэйшая ад Веры. Здаралася нават мне начаваць у іх на кватэры. Яна давала маім дзецям розныя рэчы, боцікі, вопратку...

— То ж вялікай раскошы тады мы не ведалі, — дакінуў дзядзька Язэп. — Але і мы Веры Міхайлаўне таксама не без таго, каб нешта з харчоў не падкінуць, са сваіх сялянскіх запасаў. І так мы сябравалі. Здаралася, што і чарку выпілі...

— Ён, значыць, Фёдар Маскаленка, — перапяла голас Мальвіна Шымасюк, — быў высокім, прыгожым, чарнявым, маладым мужчынам. Вера вельмі кахала свайго мужа. Проста ім захапілялася. Толькі і талкавала: *„Мой Федзя, мой Федзя..."* Сама яна была вельмі сімпатычная, такая жывая, невысокая, чарнявая, непаседа... Любіла кіно. Калі толькі Фёдар Маскаленка меў свабодны вечар, дык цягнула яго ў кіно. *„Федзя, міленькі мой, давай сходзім у кіно!"* Здаралася, што і мяне запрашала паглядзець нейкі фільм, калі Фёдар быў на службе.

— Зімою... так, зімою... — падумаўшы, сказала яна, — памятаю, што вельмі холадна было... паявілася ў іх яшчэ адно дзіця, дзяўчынка, якую назвалі Любачкай. Спакойнае, ціхенькае дзіцятка. Трымалі яе ў ложачку на палазах, каб можна было люляць. Бывала, зайду я да іх, а Вера бярэ мяне за руку і кажа: *„Хадзі, Мальвіна, паглядзі, якая Любачка ў мяне харошая, дабранькая!"* Мы ціхенька зойдзем у пакойчык, Вера адкрые цюлевую заслону — і твар яе засіхаціць матчынай радасцю...

На жаль, гэтую радасць абарвалі гітлераўскія кулі на шашы каля Міхалова. Расказ пра лёс дзіцяці, якое назвалі Любачкай, прадоўжу я наступным разам.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Л. Кузьмін

## РАССЫПАНЫЯ КАРАЛІ

Казка

Жыў у сасновым лесе каршун — светлыя бровы, жоўтыя вочы, шэрая грудка ў крапачкі.

І — хочаце верце, хочаце не — быў у каршуна шнур жамчужных пацерак, а на галаве чырванеў грабеньчык.

Каршун быў вельмі добры і кампанейскі. І таму ён часта лётаў у сяло да пеўня і куркі, гасцяваў у іх цэлымі днямі.

Бывала, дзяўбе разам з імі з карытка-кармушкі ячмень ды пшаніцу, а сам курцы кажа з удзячнасцю:

— Які цудоўны пачастунак! Хочаш, курка-рабка, я цябе за гэта лётаць навучу...

А курцы лётаць хочацца, але глядзіць яна не столькі на каршуна, колькі на пацеркі ягоныя:

— Ах — кудах, вось каб мне такія!

І за каршуном узмахне сваімі кароткімі крыламі, ледзь-ледзь ад зямлі адарвецца ды на шнур караляў загледзіцца, забудзецца крыламі махаць і падае. Так і не пайшло далей гэтае яе ўменне лётаць.

А певень тым часам усё глядзеў на каршуноў грабеньчык. У яго ў той час раслі на галаве толькі гладзенькія пёркі, і певень, як і курыца, думаў:

„Вось каб і мне на галаву такое, як у нашага госця, цудоўнае ўпрыгожанне...“

І спачатку певень вырашыў вырадаваць сабе чырвоны грабеньчык сам.

У чырвані заранкі абудзіцца, адкукарэкаецца, устане пад шырокі, мокры ад расы лапух. Чакае, калі капне ружовая ад заранкі кропля расы яму на галаву. І вось расінка — шлёп! А певень падскочыць і бяжыць у курнік да куркі:

— Глядзі, вырасла што-небудзь у мяне на галаве?

Курка гляне, скажа:

— Не...

І тады чакае пеўнік дожджыку з вясёлкай. І калі дождж\u044bк паналівае лужыны, а ў іх адлюструецца вясёлка з неба, дык пеўнік прабуе падчапіць вясёлку, абмыцца сямікалернай вадзіцай.

Потым зноў пытаецца куркі:

— Ну, а цяпер?

— А цяпер, — адказвае курка, — зноў нічога няма.

І вось мучыўся, мучыўся пеўнік ды з гора і рашыўся на нядобры ўчынак. Адшукаў ён за хатай, за сваім курнікам у чортапалоху зярняткі дурнап'яну. І калі каршун прыляцеў у госці, певень падсунуў зярняткі ў карыта, у ячмень.

— Еш, даражэнькі каршун, тут... З гэтага беражку пачастунак смачнейшы.

— Што ж! — цешыцца каршун. — Калі смачнейшы, дык і падзяўбем.

І дзеўбануў. А як дзеўбануў, дык у вачах у яго пайшлі сонныя кругі. Ён пазяхнуў, ды проста каля карыта і зваліўся.

Ляжыць, галаву — пад крыло, нават пахрапвае, а курка вохкае:

— Ох, ох! Чаго ж ён заснуў?

— Не вохкай, — кажа певень, — а бяры каралі. Ты ж так хацела іх мець.

Ён сам каралі каршуна зняў, сам накінуў на курку, шапачку-грабеньчык таксама з галавы каршуна сарваў, нацягнуў на сваю галаву.

— Цяпер, — кажа, — бяжым хавацца...

Толькі певень і сапраўды пабег, а курка не можа ступіць ані кроку. Схіліла галаву набок, разглядае свае каралі, ад шчасця вочы закрывае:

— Ох-ох! Квох-квох!

А тут сонныя зярняткі дзейнічаць перасталі — каршун прачнуўся. Чуе ён, што ў галаву холадна, што грабеньчыка няма, убачыў свае каралі на курцы: уся дабрата з каршуна зляцела.

— Эх ты! Як табе не сорамна! Ты ж вучылася ў мяне лётаць!

— Гэта не я... — адступае сарамліва курка. — Гэта ўсё певень.

Але каршун ужо не слухае. Шарпнуў каршун крывымі кіпцюрамі за каралі, тонкая нітка нацягнулася і лопнула — жамчужыны дробным градам разляцеліся па траве, упалі на густое лісце, у высокія рамонкі.

А тут на шум з хаты выскачыў гаспадар.

— Што тут за няпрошаны госць на падворку! Кыш!

Няма чаго рабіць каршуну. Паляцеў ён без караляў, без грабеньчыка да сябе ў далёкі лес. Толькі і паспеў пагразіць курцы:

— Як вы з пеўнем са мною паступілі, так і я цяпер буду з

(Працяг на стар 10)

Віктар Швед

## ПРАДВЕСНЕ

Плача жаласна снег,
Пачарнеў ад смутку,
Ручаём слёз пабег
Ціхутка, ціхутка.

Адыходзіць зіма
На поўнач далёка.
Вяяваць тут дарма,
Вясны чутны крокі.

Трыумфальна ідзе,
Нясе подых весні.
Снег ужо дзе-нідзе...
Вітаем прадвесне!

## ВАЗЬМІ БУСЕЛ АД МАМУСІ

Раззлавалася мамуся:
— Цяжкі ў нас з табою лёс.
Што за неразумны бусел!
Нам цябе гультай прынёс!

Будучы ў хвіліннай скрусе
Адазваўся Яраслаў:
— Я да бусла зноў звярнуся,
Каб мяне назад забраў.

## ЗРАБІЎ БРАТА ВІНАВАТЫМ

Злуе настаўнік на ўроку
На Мікалая-абібока:
— Чаму так брыдка, нестаранна
Зрабіў ты хатняе заданне?

А Мікалай тут без запінкі
Спакойна кажа праз хвілінку:
— Ці ж я магу быць вінаватым
Што почырк дрэнны ў майго брата?
Заўсёды піша ён так сама,
Як наша курка кіпцюрамі.

Віктар Каняхін

## УРОК СМЕХУ

На апошнім уроку настаўніца сказала:

— Цяпер у нас будзе ўрок смеху. Да дошкі пойдзе Коля Семянюк.

Семянюк пацiснуў плячыма, неахвотна вылез з-за парты і пайшоў да дошкі. Ён узяў крэйду, патрымаў яе і паклаў назад. Потым схаваў рукі за спіну і спытаў у настаўніцы:

— А што я павінен рабіць?

— Ты павінен рассмяшыць увесь клас! — сказала настаўніца.

— Чаму? — здзівіўся Коля. — Нам такога не задавалі...

— Такога я не задавала, — згадзілася настаўніца. — Але ты на іншых уроках стараешся рассмяшыць увесь клас. Дык зрабі гэта цяпер.

— Нічога я не прабую, — адказаў Коля і пацягнуў носам.

— Ты, мабыць, забыўся, — паківала галавой настаўніца. — Ты заўсёды пра ўсё забываешся ля дошкі.

(Працяг на стар. 10)

Марэк Петрышык, вучань трэцяга класа з Тыневіч, славіцца ў сваёй школе тым, што вельмі прыгожа малюе. Задумае нешта, уявіць сабе тое і адразу намалюе. Яго малюнкі заўсёды вісяць на школьнай выстаўцы. Фота Я. Чэрнякевіч.

Рыгор Мароз

## ВЕДАЙ, ГЭТА ВЯСНА

— Дзедку, — прычапіўся унучак да старога. — Калі ўжо прыйдзе вясна?

— А што? Так зіма абрыдла?

— Даволі ўжо зімы. Снег абрыд. Марозу па вушы было. Не адзін раз ног не чуў. І мокрым ад снегу прыходзіў. Уляцела за гэта не раз.

— А ведай, малы, — павучае дзедка. — Калі вымерзнеш зімой — адагрэешся ўлетку. І, пэўна, шкода будзе гульняў зімовых. А вясна прыйдзе. Ты толькі чакай. І не прапусці. Не ўбачыш і калі завітае. Няхай толькі сонейка пойдзе вышэй. Прыгрэе. Снег у момант вадой паплыве.

— А як бы тое сонейка падняць? — не адступае малы.

— Яшчэ, бачыш, на гэта ра-

(Працяг на стар. 10)

# Робім самі цацкі




мал. 1.



мал. 2.



мал. 3.



мал. 4.



мал. 5.



мал. 6.



мал. 7.



мал. 8.



мал. 9.



## ЛОДКА

*Вясна да нас прыходзіць з гоманам цякучых ручайкоў, з разводдзем. Любяць тады дзеці пускаць на ваду розныя караблікі і лодачкі. Давайце сёння навучымся рабіць з лістка паперы лодку для нашых веснавых гульняў. Некаторыя з вас маракць у будучыні стаць сапраўднымі канструктарамі вялікіх марскіх караблёў. А пакуль што зробім супольна лодку з паперы.*

*Прамавугольны лісток паперы любога размеру складваем напалавіну (мал. 1). Атрыманы новы прамавугольнік складваем зноў напалавіну, каб знайсці яго сярэдзіну, і зноў раскладваем (мал. 2). Верхнія вуглы закладваем да сярэдняй лініі (мал. 3). На складзеныя вуглы адгінаем адну ніжнюю палоску (мал. 4). Тое самае робім на адваротны бок (мал. 5). Атрымаем тады капялюшык, які раскладваем ад сярэдзіны так, каб атрымаць з яго квадратную форму (мал. 6). Ніжнюю падвойную частку квадрата адгінаем па дыяганалі ўверх (мал. 6 і 7). Тое ж робім і на другі бок (мал. 8). Атрымліваем зноў трохвугольны капялюшык, які раскладваем зноў ад сярэдзіны на квадратную форму, як і папярэдні (мал. 9). Зверху паяўляюцца тры чубкі. Беручы пальцамі абедзвюх рук за бакавыя чубкі, расцягваем іх. Атрымліваецца лодка, як на малюнку. Застаецца яе толькі добра ўфармаваць, каб яна мела аб'ёмістую форму і лепш трымалася на паверхні вады.*

*Памятайце! Складваць паперу трэба вельмі дакладна і таксама дакладна трэба кожны перагклад паперы добра загладжваць, каб атрымаць вельмі выразныя лініі пераломy паперы.*

**Ваня Майстар**

(Працяг са стар. 9)

## ВЕДАЙ, ГЭТА ВЯСНА

зумных няма. Не падумаў ні адзін вучоны, як ты. Відаць, надта ж гарачае яно. Але яно і само пойдзе ўгору. Не спяшайся. Прыйдзе пара, пачакай. Тады завітаюць да нас першыя птушкі, шпакі, жаўрукі. Калі толькі пачуеш іх спеў, дык ведай — вясна на парозе. І кветкі з-пад снегу пакажуць галоўкі. Коцікамі абсыплюцца галінкі на вербах.

— А чаго тыя коцікі палезуць на дрэвы?

— Не жывыя, а тыя, што паказваюць азнакі першых дзён вясны. Так цвіце вярба. Зямля ажыве ад зімы. Дрэўцы напучацца, як бы чакаючы, калі можна будзе распырхнуць почкамі. Вада пабяжыць ручайкамі. Снег згіне. А там па-над лесам гром прагрыміць. Рэха ад лесу адаб'ецца і да нас даляціць. Дык ведай. Вясна зробіць сваё. Цёплы дождажык абмые зямлю. Траўка за ноч падскочыць угору. Зялёным зробіцца луг. Тады ведай, — вясна ў разгары. У неба паднімуцца жаўрукі, каб цешыць прыроду спевам сваім. Пчолкі зробяць свой першы аблёт. На коціках сядуць і свой гімн загудуць. Шпакі заспяваюць: Бывай, зіма! За год варочайся да нас. А цяпер прывітанне, вясна! Будзь прыгожай, як заўсёды для нас. Бо твой надышоў ужо чарод. А ты, унучак, чакай. Вечарам спі, засынай. А можа ўжо ноччу пачнецца ўсё гэта? Знай, зранку ў аконца глядзі. Вясновых прыкметаў шукай. Ці сонейка свеціць ужо вышэй? Ці шпак на грушы яшчэ не сядзіць? Адно толькі ведай — чакай! Заўсёды ў жыцці так было. І сёлета будзе. Напэўна.

Прыціх на момант дзедка. І ўнучак супакоіўся ды пільна глядзіць у аконца.

## Пазнаёмімся

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 58. Вераніка Юхноўская, вучаніца 8 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 37. Ніна Камісарава, вучаніца 7 класа.

* * *

БССР, 220021, г. Мінск-21, вул. Цэнтральная, 7, кв. 30. Таня Курыловіч, вучаніца 7 класа.

* * *

БССР, 220021, г. Мінск-21, пр. Партызанскі, 128, кв. 7. Лена Курачкіна, вучаніца 7 класа.

* * *

БССР, 220021, г. Мінск-21, пр. Партызанскі, 118, кв. 29. Ірына Зыбайло, вучаніца 7 класа.

## АДГАДАНКА




Які шасцівугольнік можна скласці з пададзеных чорных кавалачкаў?

(Працяг са стар. 9)

## УРОК СМЕХУ

— Не ведаю, як рассмяшыць, — прабурчаў Коля.

— А ты строй нам мінкі, — падказала настаўніца.

— Якія?

— Якія строіш на кожным уроку.

— Нічога я не строю! — пачаў апраўдвацца Коля і пачухаў за вухам.

— Вушы чухаць не трэба. Гэта не штучка. Ты лепш намалюй на дошцы гіпапатама.

— Якога гіпапатама?

— З парасячым хвосцікам. Ты малюеш такіх у чужых сшытках. Вельмі смешныя гіпапатамчыкі.

— Не буду я маляваць...

— Не хочаш — не малюй. Тады, можа, насыплеш у маю сумку зубнога парашку? Смешна будзе!

— Няма ў мяне зубнога парашку!

— Значыць, забыўся прынесці. А воск прынёс, каб памазаць школьную дошку?

— Я ў школу прыйшоў, а не ў цырк...

— Шкада, — сказала настаўніца. — Шкада, што толькі цяпер ты гэта зразумеў. Не выйдзе сёння ў нас урока смеху. Але, можа, ты заўтра ўсё гэта прынясеш, і тады мы пасмяемся.

— Не пасмяецеся, — адмахнуўся Коля.

— Садзіся, — сказала настаўніца. — А штучкі ты прыхавай на школьны вечар.

З таго часу Коля Семянюк ніколі больш не стараўся рассмяшыць сяброў на ўроках. Па просьбе аднакласнікаў ён пачаў займацца ў гуртку мастацкай самадзейнасці. Цяпер на школьных канцэртах ён вельмі смешна расказвае розныя вершы, а таксама стараецца расказваць гледачам розныя смешныя здарэнні.

(Працяг са стар. 9)

## РАССЫПАНЫЯ КАРАЛІ

вамі... Вы ў мяне найдаражэйшае ўкралі, і я ў вас калі-небудзь самае дарагое адбяру!

І сапраўды. Павяла курка куранят на шпацыр. Ходзіць з імі, любуецца. І певень на дзяцей глядзіць, цешыцца, ганарыста чырвоным грабеньчыкам пакручвае:

— Вось якія ў нас дзеці! Пушысценькія, чарнавокенькія.

Раптам на двор упаў хуткі цень. Певень бачыць: каршун. Ды не проста ён, каршун, цяпер ляціць, а на пеўня ды куранят кіпцюры настаўляе.

— Ратунку! — перапалохаўся певень.

Нырнулі куранняты, певень і курка пад ганак. Крыкам крычаць, клічуць гаспадара на дапамогу. А каршун прашумеў крыламі над самым ганкам, пагразіў горш яшчэ:

— Хавайцеся — не хавайцеся! Цяпер заўсёды так будзе!

Засумаваў певень:

— Ой, бяда наша... Давядзецца нам, курка-рабка, неяк направіць справу. Грабеньчык вяртаць шкода, а вось каралі трэба вярнуць... Хадзі будзем іх збіраць...

Але дарагацэнныя каралікі ўжо расцягнулі па сваіх норках мышы ды краты. І певень з куркай нічога знайсці не могуць, акрамя чарвякоў. Знайсці не маглі ні за першым, ні за другім, ні за трэцім разам...

Шукаюць яны іх і цяпер, шукаюць разам з куранятамі. А калі ўбачаць каршуна, усёй чарадой бягуць пад ганак. А чаму? А ўсё таму, што курка з пеўнем усяго адзін раз, але пазайздросцілі чужой прыгажосці.

Чужой прыгажосці пазайздросцілі, а пра сваю забыліся. Каб яны адразу запыталіся ў курант: „Хто прыгажэйшы? Каршун з грабеньчыкам і каралямі, ці мы — вашы бацькі, без грабеньчыка і караляў?" — Дык куранняты напэўна адказалі б: „Вядома, што вы."



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

# НІЎКА

З чаго смяюцца суседзі

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Стаяла позняя восень. Цэлымі днямі лілі дажджы. У санаторыі было сумна. І вось аднойчы мужчын з другога паверха іх суседка, жанчына былой красы, паклікала на свой дзень нараджэння. Угаворваць доўга не давялося — яны адразу пашыбавалі ў магазін, купілі духі, каробачку цукерак і надвячоркам завіталі да юбіляркі.

Усё было на гэтым свяце: і тосты, і цікавыя гісторыі, і песні ўпаўголасу (цішыню ж парушаць нельга!)

Усе засталіся задаволены, і толькі сяброўка юбіляркі была крыху здзіўлена.

Калі ўсе мужчыны пайшлі, яна спытала:

— Вера! Ты што, другі дзень нараджэння адзначаеш у гэтым годзе? Памятаеш, адзін дзень спраўлялі мы ў маі, а зараз жа кастрычнік?

— Ты мяне ніколі не разумееш, — адказала Вера. — Гэта проста маленькая дыпламатыя. Бачыла, гэты высокі прыгожы пюхнай Васіль вачэй з мяне не зводзіў? Два тыдні збіраўся ў каханні прызнацца і ўсё ніяк не асмельваўся. А сёння прапанаваў пайсці ў ЗАГС. Я адчуваю, што неспадзявана выйду замуж... Калі хочаш ведаць, я сапраўды сёння нібы зноў на свет нарадзілася...

**Анатоль Суніцын**






## НЕ ТАК ЛЕЧАЦЬ

Выйшаў дзядуля ад лекара і гнеўна кажа:

— Не так цяпер лечаць, як калісь!

— Раней лекар гадзіну аглядаў хворага, а тры хвіліны пісаў, а цяпер — наадварот!

## ВЫКРУЦІЎСЯ

Заўзяты рыбак выхваляецца перад гасцямі:

— У мінулы тыдзень я такога сома выцягнуў, што ён ледзь на вотым стале змясціўся.

— Не на стале — на табурэтцы, — удакладняе жонка.

— Ха! На табурэтцы, — абурана ўскіпеў гаспадар. — Дык гэта ўжо калі ён без галавы і хваста быў!

## СЯБРУЙ З ІМКЛІВЫМ РУХАМ

З фізічнай працаю дзяды
Дружылі — шмат хадзілі —
Таму не ведалі бяды
Ад гіпадынаміі.

А ўнукі ўжо народ не той,
Бо іншыя часіны:
За іх з работаю цяжкой
Спраўляюцца машыны.

Ёсць людзі — пехатой ані!
Хіба ж не варта смеху —
Гатовы дзень стаяць яны,
Каб з паўвярсты праехаць.

Такі і дома, каб зрабіць
Хоць што, — не зварухнецца.
А ў выніку: — І бок баліць,
І штосьці коле ў сэрцы...

І паяўляюцца дзядкі,
Бабулькі маладыя.
Марнеюць людзі ад рукі
Злой гіпадынаміі.



Псіхалогія нацука: Усё выгрызці! Нават душу!

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У кватэры гаспадара начнога бара перад палуднем зазваніў тэлефон.

— У колькі гадзін вы адкрываеце свой бар? — спытаў нехта.

— У палове дзесятай вечара, але вы можаце прыйсці ў дзевяць.

— Прыйсці? — спытаў здзіўлены голас. — Як гэта прыйсці? Я хачу выйсці!

*

Размаўляюць два шатландцы.

— Глен, — пытае адзін з іх, — калі б ты меў шэсць пішучых машынак, даў бы мне хоць адну?

— Так, даў бы.

— А калі б меў шэсць радыёпрыёмнікаў, даў бы мне адзін?

— Вядома.

А калі б меў шэсць кашуль, даў бы адну?

— Не.

— Чаму?

— Бо якраз зараз шэсць кашуль я і маю.

## ГОРДАСЦЬ

Язык нарадзіўся без касцей і страшэнна гэтым ганарыцца.

— Косці ныюць, косці ныюць, — перадражнівае Язык стомленыя Рукі і Ногі. — Гультаі! У мяне няма, як у іх, апоры, няма касцей, я працую без адпачынку, іншы раз падаю ад знясілення. Затое вось... Бачыце, людзі б'юцца? Мая работа!

**Язэп Таўпічэзны**

З „Весніка Задрышоніі"

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

...у раёне Бермудскага трохвугольніка пакінутыя без нагляду каштоўныя рэчы прападаюць таксама часта, як і на іншых пунктах планеты.

## ЗАЎВАГІ ТЭАТРАЛА

Добра сядзець на двух крэслах...



Карцінная галерэя.



— І гэту, калі ласка!



— Да чэмпіяната, доктар, ён быў на рэдкасць ураўнаважаным...

# Курʼёзы

## КУМІР

Многія амерыканцы называюць Галівуд „краінай летуценняў". Кіназоркі галівудскіх падмосткаў становяцца кумірамі грамадства, іх памяці пакланяюцца яшчэ доўгі час пасля іх смерці. Невыпадкова надта прэстыжнымі з'яўляюцца асабістыя знаёмствы са знакамітасцямі Галівуда і нават валоданне звычайнымі рэчамі іх былога побыту. Гэтыя рэчы кіназоркапнябожчыкаў на аўкцыёнах цэняцца на ўзроўні далёкіх рэтра, сярэдневяковых рэліквій. Напрыклад, зараз у ЗША асабліва дорага каштуюць рэчы трагічна загінуўшай Мэрылін Манро. Не так даўно на аўкцыёне ў Нью-Йорку прадаваўся невялікага памеру малюнак, зроблены ёю ўласнаручна каля 20 год назад. Гэта яе аўтапартрэт, выкананы далёка не прафесійна і нават нядбайна. Але за яго было заплачана пяць з паловай тысяч долараў. А за звычайны яе фатаграфічны малавядомы партрэт з яе подпісам адзін бізнесмен не пашкадаваў паўтары тысячы долараў.




Не павялічвайце колькасці сваіх недахопаў! Лепей павышайце іх якасць.